**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№21(633) 24 траўня 2012 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

## Такога Лучай яшчэ не бачыў і не чуў!

■ **Уладзімір Скрабатун**

**Ёсць некалькі Беларусяў. Адна плача, скуголіць, енчыць, маўляў улада нішчыць мову, культуру, гісторыю… Некаторыя з гэтых, якія енчаць, з'язджаюць за мяжу, маўляў з гэтым народам не па дарозе. Іншыя, седзячы за камп'ютарам, кляцаючы па клавішах, заклікаюць "ісці на барыкады"… Але заклікаюць ісці іншых, самі ж будуць даваць парады, не адыходзячы ад стала з камп'ютарам ці ноўтбукам.**

Ёсць і іншая Беларусь, якая не плачыцца, не енчыць, а нешта робіць, каб у Беларусі была Беларусь.

Чарговы раз у гэтым пераконваешся, калі прыязджаеш на фэст у Лучай, што на Пастаўшчыне. Усё – пабеларуску: набажэнствы, спевы ў касцёле, якія кранаюць ледзьве не да слёз, выстава "Вёска майстроў" перад касцёлам, эстрада на прыступках на фоне храма, дзе пасля завяршэння ўрачыстасцяў у касцёле адбываюцца выступы самадзейных артыстаў.

Што такое фэст? Даўней – значная гадавая ўрачыстасць у парафіі, як каталіцкай, так і праваслаўнай ды й уніяцкай. На набажэнства з'язджаліся людзі з блізкіх і далёкіх ваколіцаў. Везлі на вазах парасят, мяса, рыбу, вялі кароў, жаробкаў… Адбываўся вялікі торг. Прадалі. Тут жа набывалі цукар, соль, сельскагаспадарчыя прылады: сярпы й косы, плугі ды посуд… Вялікі фэст на Пятра й Паўла, ва ўніяцкія часы, адбываўся ў Беразвеччы, куды ехалі людзі аж з-пад самога Браслава.

Цяпер жа фэсты больш відовішчныя, бо каўбасу ці запалкі ўжо можна купіць у краме насупраць храма. З набыццём Беларуссю незалежнасці, праявілася цікавасць яе жыхароў да гісторыі і культуры сваёй краіны. Вось у гэтым і ёсць адметнасць сённяшніх фэстаў. На фэст прыязджаюць здалёку ўраджэнцы парафіі, запрашаюць з сабой сяброў і знаёмых, прыязджаюць ахвярадаўцы, наведваюцца і іншыя, бо ім цікава, відовішчна, гэта – дакрананне да свайго мінулага і адначасова адпачынак, экскурсія.

У наш час на мясцовай глебе ствараюцца розныя турыстычныя брэнды. Калі Мосар –"Беларускі Версаль", то Лучай – "Паланэз над блакітнымі азёрамі". Так! Бо фундатарамі лучайскага касцёла былі Тадэвуш Агінскі і яго жонка Эльжбета (з Пузынаў). Лучайскія Агінскія – крэўныя сваякі Міхала Клеафаса Агінскага, кампазітара, дзяржаўнага і вайсковага дзеяча Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, удзельніка паўстання Т. Касцюшкі, аўтара неўміручага паланэза "Развітанне з Радзімай". Касцёл жа быў змураваны ў 1766—1777 гг.

*Заканчэнне на стар. 4.*



**Андрусь Такінданг і ксёндз Мікалай Ліпскі.** *Фота Уладзіміра Скрабатуна.*



## Увага – узрост!

У мэтах павышэння ўзроўню бяспекі пажылых грамадзян у перыяд з 14 па 18 траўня 2012 года на тэрыторыі Глыбоцкага раёна былі праведзеныя адмысловыя комплексныя мерапрыемствы «Увага – узрост!».

У мэтах стабілізацыі аператыўнага становішча, папярэджанні злачынстваў і правапарушэнняў у адносінах да пажылых грамадзян. Адмысловая ўвага была нададзеная прафілактыцы злачынстваў у стаўленні грамадзян, якія адзінокія і адзінока пражываюць.

***А.І. Гігола,***
*начальнік аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Глыбоцкага РАУС.*



## «РАЗАМ СУПРАЦЬ НЕЛЕГАЛЬНАГА АЛКАГОЛЮ»

■ **А.І. Гігола,**
*начальнік аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Глыбоцкага РАУС.*

Барацьба з п'янствам і алкагалізмам, а таксама мінімізацыя іх негатыўных наступстваў, з'яўляюцца аднымі з прыярытэтных кірункаў дзейнасці органаў унутраных спраў. У мэтах процідзеяння алкагалізацыі насельніцтва, прывіцця культуры піцця на заканадаўчым узроўні замацаваны забарона на выраб і збыт самагонкі, распіванне алкагольных, слабаалкагольных напояў і піва ў грамадскіх месцах. Сотні жыхароў нашай вобласці і тысячы па рэспубліцы штогод гінуць ад выпадковых атручванняў алкаголем. Далёка не ўсё з іх - людзі антыграмадскага статусу. Нярэдка ахвярамі спіртнога становяцца працоўныя, працаўнікі сяла, пенсіянеры і нават моладзь. І чыннік гэтаму, часцей за ўсё, простая -незаконная рэалізацыя алкагольных напояў.

У перыяд часу з 14 па 25 траўня 2012 гады праводзіцца агульнарэспубліканская акцыя «Разам супраць нелегальнага алкаголю!» Асноўнай мэтай правядзення акцыі з'яўляецца актыўнае спыненне нелегальнага звароту алкаголю і памяншэнне негатыўных наступстваў, злучаных з яго спажываннем.

Калі Вы не абыякавыя да дадзенай праблемы, не можаце спакойна глядзець на тое, як распадаюцца сем'і, на матчыны і дзіцячыя слёзы, паведаміце інфармацыю па тэлефонах:

УУС Віцебскага аблвыканкама: ГТС (8 - 0212) 21-08-63, МТС (8 - 029) 511 -22-16, Velkom (8 - 029) 314-08-63.

Глыбоцкі РАУС: 2-27-02, 2-26-82, МТС 597-21-74, Velkom 314-89-02.

Полацкі раён

# Злавесны арсенал ля святыні

■ Станіслаў Раманчук

**У аўральным рэжыме ў маі вяліся работы ў Полацку па добраўпарадкаванні духоўнага цэнтра краіны, калі скі беларускай дзяржаўнасці, каб паспець да 1150-гадовага юбілею горада.**

З усіх куткоў вобласці сюды накіравалі неабходную тэхніку і спецыялістаў-будаўнікоў, былі выдзелены з абласнога бюджэту дадатковыя фінансавыя сродкі. Падчас сваёй інспекцыйнай паездкі старшыня аблвыканкама А. Косінец даручыў ваенным праверыць на прадмет бяспекі закінутую тэрыторыю вакол Спаса-Еўфрасіньеўскага манастыра і на берагах ракі Палаты. Як аказалася, зроблена гэта было правільна. Тут пачалі работы па расчыстцы русла ракі ў рамках маштабнага праекта па стварэнні музейна-культурнага цэнтра. Сапёры ваеннай часці 5530 знайшлі неглыбока ў зямлі нават 30 артылерыйскіх снарадаў і 13 мінамётных мін. Смертаносны груз часоў вайны воіны абясшкодзілі, вывезлі на спецыяльнае месца на палігоне ў Дрэтуні і знішчылі. Такая работа ў горадзе будзе прадаўжацца, бо і раней падчас паводкі боепрыпасы вымывала вадой, іх знаходзілі асобныя грамадзяне. Пасля ачысткі Палаты вакол яе берагоў намечана разбіць паркавую зону з пешаходнымі дарожкамі, лодачнай станцыяй. Паблізу манастыра не будзе болей знаходзіцца і мясцовы лясны тэхнікум, яго перасяляць у іншае месца. Знясуць тут і чатыры прыватныя дамы, а іх уладальнікам прадаставяць узамен новыя кватэры. Ва ўрочышчы Пяскі паблізу святыні ўвекавечаць памяць 150 тысяч замучаных і расстраляных ваеннапалонных і мірных грамадзян.

Пастаўскі раён

# Штурмуюць людцы крамы

■ Кастусь Александровіч

**З падачы ўрада краіны айчынным малочным прадпрыемствам загадана выпускаць і пэўную колькасць так званай сацыяльнай прадукцыі па нізкіх, фіксаваных цэнах.**

Аднак цяпер кожны дзень такой гаспадарчай "дзейнасці" па-беларуску толькі Пастаўскаму малочнаму заводу прыносіць па 40 і болей млн. рублёў прамых страт. Калі за літр калгаснага малака завадчане плоцяць вытворцам па 3 тысячы рублёў, а прадаваць прымушаюць па цане у 2 разы меншай, то неўзабаве можна поўнасцю спініцца і вылецець у трубу. Невыпадкова вясной страты гэтага прадпрыемства сталі дасягаць да 2 млрд. рублёў у месяц, першы квартал прынёс адмоўны баланс у суме 5 мільярдаў. Аднак чыноўнікі патрабуюць трэць прадукцыі прадаваць па нізкіх цэнах у асноўным у дзіцячыя сады, школы, бальніцы, санаторыі. Зусім нямнога "сацыяльнага малака", ужо дзясяткі пакетаў паступае толькі ў фірменныя магазіны завода. У выніку чэргі за ім людзі сталі займаць цяпер нават у 6 гадзін раніцы. За танным кефірам і тваражком пастаянная даўка і нервовая абстаноўка на мяжы таго, што пенсіянеры могуць пачаць дубасіць адзін другога. У такой сітуацыі на прадпрыемстве думаюць наогул спыніць водпуск таннай, але нерэнтабельнай прадукцыі і чакаюць толькі рашэння мясцовага кіраўніцтва. Але даць такую каманду, як і рашыцца на талоны альбо спісы, у нас рызыкоўна, бо не дзейнічаюць прынцыпы мясцовага самакіравання. У гандлёвую сетку паступае свабодна ўжо пераважна дарагая малочная прадукцыя з рознымі вітамінамі і дабаўкамі, з высокай тлустасцю, інакш завод не выжыве.

Лепельскі раён

# Стаўка на дояраў ... робатаў

■ Чэслаў Якубовіч

**Ва ўсіх кутках Беларусі вяскоўцы цяпер акрамя веснавых палявых работ занялся абнаўленнем старых жывёлагадоўчых ферм.**

Толькі на Віцебшчыне да зімова-стойлавага перыяду трэба будзе вярнуць да нармальнай дзейнасці, абсталяваць малакаправодамі 228 кароўнікаў. Не застаўся ў баку ад такіх пераўтварэнняў і Лепельскі раён, дзе вядуць работы па рэканструкцыі 8 малочнатаварных ферм. З бюджэту вобласці мясцовым аграрыям было выдзелена 2,2 мільярды рублёў на закуп неабходных будматэрыялаў і абсталяванне для абслугоўвання статку. Ва ўмовах недахопу ў гаспадарках грашовых сродкаў большасць работ будзе выканана гаспадарчым спосабам. І толькі сельскагаспадарчаму філіялу мясцовага малочнакансервавага камбіната пашчасціла. На ўжо дзеючай сучаснай ферме "Заазер'е" з тэхналогіямі XXI стагоддзя пачалі дабудоўваць яшчэ адну даільную залу. Мясцовых рагуль, як і ў суседнім памяшканні, пачнуць даіць ужо прывычныя тут дояры-робаты. А вось іншым гаспадаркам цяжка разлічваць на такую тэхнічную аснашчанасць. У сельгаспрадпрыемстве "Чарэйшчына" ўвогуле сталі абнаўляць пуставаўшы цялятнік. Запрошаная на аб'ект брыгада прыватнікаў будаўнікоў з далёкага Пінска дабудуе тут малочны блок для 400 галоў і пакой адпачынку з душам, дзе будзе і пральная машына для даярак. Для ўдзешаўлення работ ў раёне задзейнічаны ўсе пілорамы, на дапаможныя работы і на добраўпарадкаванне тэрыторыі абноўленых ферм прыцягваюцца студэнцкія будатрады, як за савецкім часам.

# Лічба нумара

**14** – на такім выніковым месцы, як і летась, завяршыла зборная Беларусі па хакеі свае выступленні на чарговым чэмпіянаце свету, які праходзіў у двух еўрапейскіх краінах – Швецыі і Фінляндыі. Трэці год запар гульня беларусаў на планетарным першынстве пакінула вельмі сумнае ўражанне. Мяняюцца трэнеры, праядаюцца велізарныя грашовыя сродкі, а нашы хвалёныя прафесіяналы з трэскам прайграюць нават французам і цудам пазбягаюць вылету ў ніжэйшы дывізіён В.

Нагадаем, што сёлета перад беларускай зборнай ставілася амбіцыйная задача трапіць у васьмёрку мацнейшых і прабіцца такім чынам у лік удзельнікаў сочынскай Алімпіяды. На справе з такога вось калгаснага планавання выйшаў поўны канфуз, суцэльны сорам. Беларускія хакеісты з цяжкасцю змаглі перамагчы толькі аслабленых траўмамі казахаў, а астатнія матчы прайгралі. Гэта пры тым дзіўна, хто хакей у Беларусі болей, чым гульня, гэта спорт № 1. Можна назваць і іншыя эпітэты: хакей – дзяржаўны від спорту, самы любімы кіраўніцтвам краіны, ён карыстаецца самай вялікай дзяржпадтрымкай. Дастаткова сказаць, што на хакеістаў выдзяляецца да 85 % усіх сродкаў, якія ідуць на развіццё гэтай галіны.

Сёння нават у заштатным адкрытым чэмпіянаце Рэспублікі Беларусь па хакеі мацнейшыя ігракі, скажам шчыра, маюць заробкі да 15 тысяч долараў у месяц у багацейшых клубах з Салігорска альбо Жлобіна. Па сутнасці хакей стаў дзяржаўнай палітыкай, ён прапагандуе існуючую сістэму. Вось толькі, як паказвае практыка, рэальнае становішча спраў не больш, чым чарговая паказуха на фоне значных эканамічных праблем і правалаў, у тым ліку і ў развіцці спорту ў краіне і масавай фізічнай культуры. Мы толькі па спажыванні алкаголю, сапраўды, нікому не ўступім сваё месца ў дзясятцы самых пітушчых дзяржаў свету.

З прэзідэнцкім хакеем усё наадварот, узровень гульні нацыянальнай зборнай становіцца ўсё больш нізкім. Былі ў зборнай свае спецыялісты М. Захараў, Э. Занкавец, якіх змяніў фінскі трэнер Кары Хейкеля (кантракт якога вызначаецца многімі нулямі ў доларавым вызначэнні), а цэльнай, зладжанай гульні каманды не назіраецца. Дык у чым жа справа?

Прычыны такіх правалаў, як справядліва сказаў капітан нацыянальнай дружыны У. Дзянісаў, у існуючай сістэме і псіхалогіі чыноўнікаў. За лепшымі нашымі спартсменамі, ды і іх выбар небагаты, няма дастойнай замены.

Дзіцяча-юнацкі спорт у Беларусі, у тым ліку хакей, развіваецца слаба. Вось пабудавалі каля дваццаці хакейных Палацаў і вырашылі адным махам паказаць свой кулак сытнай Еўропе. Хакейныя пляцоўкі меркаваліся распладзіцца нават у малых райцэнтрах, ды добра эканамічны крызіс перашкодзіў такім планам. А пры гэтым хакей – вельмі дарагакаштуючы від спорту ў нашай адной з бяднейшых краін кантыненту. Адна амуніцыя каштуе больш тысячы долараў, і паспрабуйце бацькі купіць такую форму свайму сыну, калі хапае сродкаў у большасці хіба што толькі на ежу. Утрыманне лядовых каробак патрабуе таксама велізарных сродкаў, Палацы ў глыбінцы вельмі стратныя і пажыраюць шмат грошай. Заробкі ў дзіцячых трэнераў проста мізэрныя, як і ў школьных настаўнікаў фізкультуры і тут нічога не мяняецца ў РБ гадамі.

Аднак у нас ёсць галоўны хакеіст пад нумарам 1, які не ведае сабе роўных у аматарскіх турнірах (куды гледачоў заганяюць па прымусу) са сваёй камандай, узмоцненай прафесіяналамі. Раней ён гуляў у футбол, але атрымаў моцны ўдар па назе і стаў раўнадушны да скуранога мяча. Пакуль жа добра, што Беларусь засталася ў хакейнай сусветнай эліце мінімум на адзін год. Аднак і ў 2013 годзе беларускі хакей чакаюць новыя ўзрушэнні, бо замест няўдачнікаў – казахаў і італьянцаў будуць моцныя зборныя Аўстрыі і Славеніі, якіх беларусы могуць перамагаць толькі з цяжкасцю.

Чэмпіянат свету-2014 года у Мінску ў нашай краіны не адабралі пакуль, але беларускі хакей дастаткова хворы. Яго лепшыя гульцы, як доларавы мільянер, 38-гадовы А. Мезін могуць сабе дазволіць са скандалам пакінуць зборную, як дзезерціры. Але якія яны беларусы з замежнымі пашпартамі, не будзе ў камандзе патрыётаў з чужымі каранямі. Не будуць яны сапраўднай камандай, калі і двух слоў на беларускай мове сказаць не могуць.

Сумна, але глядзець на цяперашнюю гульню зборнай Беларусі па хакеі проста прыкра. Трэба многае мяняць у існуючай сістэме, інакш беларускі спорт чакае чарговы крах, што можа праявіцца і на бліжэйшых Алімпійскіх гульнях у Лондане, адкуль мы наўрад ці дачакаемся тых 25 узнагарод, пра якія марыць самы вялікі прыхільнік хакея…

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 24.05.12 | | | | Пятніца 25.05.12 | | | | Субота 26.05.12 | | | | Нядзеля 27.05.12 | | | | Пнд. 28.05.12 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +9 | +14 | +17 | +15 | +9 | +13 | +16 | +14 | +8 | +14 | +17 | +15 | +8 | +16 | +19 | +17 | +11 | +14 | +17 |
| Ціск | 753 | 754 | 755 | 754 | 756 | 756 | 756 | 753 | 754 | 753 | 752 | 751 | 752 | 752 | 751 | 750 | 751 | 752 | 752 |
| Вільготнасць | 66 | 47 | 35 | 34 | 62 | 49 | 41 | 43 | 72 | 51 | 42 | 50 | 85 | 58 | 59 | 73 | 89 | 65 | 46 |
| Вецер м/сек | 5 С-В | 6 С-В | 9 С-В | 5 С-В | 5 С-В | 5 С-В | 7 С-В | 4 С-В | 3 С-В | 2 С-В | 5 С-В | 2 С | 1 С-З | 3 С-З | 4 С | 4 С | 4 С-В | 4 С-В | 6 С-В |

## Віншаванкі

### Раісу Мікалаеўну Малчанаву

**Віншуем з юбілеем!**

Единственной, родной, неповторимой
Мы в этот день спасибо говорим.
За доброту и сердце золотое
Мы, милая, тебя благодарим!
Пусть годы не старят тебя никогда,
Мы : дети, муж и внуки - все любим тебя!
Желаем здоровья, желаем добра,
Живи долго-долго, ты всем нам нужна.

*Муж, дочкі, зяці і ўнукі.*

### Леаніда Яўгенавіча Грыбко

**Дарагі наш муж, татачка, брат, зяцёк**

Ад усёй душы віншуем з юбілеем!
С юбилеем поздравляем
И от всей души желаем
Счастья, нежности, добра,
Здоровья и сердечного тепла,
Исполнения желаний,
Воплощения мечтаний,
Света, радости и мира,
А беда пусть ходит мимо.
И осталось пожелать
Темпа в жизни не менять,
Оставаться энергичным,
Бодрым, сильным, симпатичным.

*Жена, дочь, брат и цешча.*

## Дзень за днём

**З-за невысокіх даходаў беларусы вымушаны цяпер аддаваць на ежу амаль палову заробкаў, калі літоўцы праядаюць толькі чвэрць заробленых грошай, а расіяне –трэцюю частку сямейнага бюджэту. Да канца года А. Лукашэнка паабяцаў нацыснуць і зноў атрымаць зарплату 500 долараў, а за 4 месяцы рост цэн склаў 6,8 %. Беларусь разам з КНДР, Сірыяй, Іранам, Узбекістанам, Кубай зноў уключылі ў дзясятку краін з самай жорсткай цэнзурай СМІ ў свеце, у сусветным рэйтынгу свабоды слова краіна апусцілася са 190 на 193-е месца. Яшчэ на 30 тысяч павялічыла сваю абаненцкую базу кампанія МТС, яе паслугамі сотавай сувязі карыстаюцца амаль 5 млн. чалавек.**

# Важнейшыя навіны свету

**Інданезія.** Найноўшы расійскі самалёт Sukhoi Superjet-100 разбіўся на схіле вулкана ў час дэманстрацыйнага палёту на востраве Ява на вышыні 1650 м, загінулі ўсе 45 чалавек.

**Венгрыя.** Новы прэзідэнт краіны Янаш Адэр стаў 11-м па ліку лідарам дзяржаў Еўропы , якія не паехалі на саміт у Ялту з-за рэпрэсій да экс-прэм'ера Украіны Ю. Цімашэнкі.

**Германія.** Федэральны ўрад на чале з А. Меркель аслабіў свае пазіцыі пасля выбараў у ландтаг буйнейшага рэгіёна – Паўночнага Рэйна, дзе перамаглі сацыял-дэмакраты.

**Венесуэла.** Моцна хворы Уга Чавес не перадае свае паўнамоцтвы віцэ-прэзідэнту, метастазы раку ўжо ў касцях яго нагі і жыць яму застаецца, магчыма, толькі паўгода.

**Расія.** Як і чакалася, ДзяржДума РФ зацвердзіла экс-прэзідэнта Д. Мядзведзева новым расійскім прэм'ер-міністрам, супраць яго кандыдатуры прагаласавалі 144 дэпутаты.

**Літва.** Урад краіны зацвердзіў праект пагаднення па будаўніцтву новай АЭС у Вісагінасе, атамная станцыя запрацуе да канца 2022 года і будзе каштаваць 6 млрд. долараў.

**Польшча.** Многіх палякаў і членаў прафсаюза "Салідарнасць" абурыла рашэнне польскага Сейма павысіць пенсійны ўзрост у краіне для мужчын і жанчын да 67 гадоў.

**Германія.** На дэбатах у бундэстагу глава МЗС Гіда Вэстэрвелле назваў сорамам Еўропы тое, што адбываецца ў Беларусі і ва Украіне, дзе людзі церпяць ад дыктатуры і рэпрэсій.

**Індыя.** Падчас праліўнога лівня і буры на бурлівай рацэ Брахмапутра пацярпеў крушэнне перагружаны двухпавярховы паром, загінулі 103 пасажыры, у асноўным жанчыны і дзеці.

**Партугалія.** З мэтай эканоміі сродкаў урад краіны адмяніў 4 з існуючых 14 дзяржаўных святаў, з іх 2 рэлігійныя святы (усіх Святых і цела, крыві Хрыста) і 2 свецкія выхадныя.

**Украіна.** Савет еўрапейскіх футбольных асацыяцый УЕФА не стаў пераносіць адсюль Еўра-2012 з-за падзей у Днепрапятроўску і байкоту гульняў шэрагам палітыкаў Еўропы.

**Польшча.** Да 3-х гадоў турмы пагражае жанчыне, урачу-стаматолагу, якая ў знак помсты пад наркозам вырвала ўсе зубы свайму 45-гадоваму былому каханаму мужчыне.

**Нарвегія.** Краіна перажыла шок пасля раптоўнай смерці алімпійскай надзеі, 26-гадовага чэмпіёна свету па плаванні Аляксандра Дале Оен на трэніровачным зборы ў ЗША.

**Арменія.** Еўрапейскі вяшчальны саюз аштрафаваў краіну за адмову ад удзелу ў конкурсе песні "Еўрабачанне-2012", які пройдзе ў канцы мая ў суседнім Азербайджане.

Грэцыя. З дапамогай парабалічных люстэрак на алтары багіні Геры запалілі агонь XXX-летняй Алімпіяды ў Лондане, факельная эстафета да Англіі прадоўжыцца 70 дзён.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Старшыня праўлення Нацбанка РБ Надзея Ермакова пацвердзіла, што ў 2013 годзе можа пачацца падрыхтоўка да дэнамінацыі беларускага рубля, апошняя была ў 2000 г.

**Старыя Дарогі.** Сінод Беларускай праваслаўнай царквы можа пазбавіць сана вясковага святара, які на падпітку зняў штаны перад пасажырамі на станцыі ў Баранавічах.

**Мінск.** Савет рэспублікі зацвердзіў увядзенне ў Беларусі каменданцкай гадзіны для падлеткаў да 16 гадоў, ім забаронена знаходзіцца на вуліцы з 23 да 6 гадзін без дарослых.

**Ваўкавыск.** На прыватным аднаматорным самалёце Cessna-172 з-за тэхнічных непаладак прызямліўся на ваенны аэрадром і быў адразу затрыманы жыхар Мінска, як немец М. Руст

**Петрыкаў.** У райцэнтры днём у склепе з бульбай электрычным токам былі забіты маці і яе дачка, вучаніца 10-га класа гімназіі, якая кінулася дапамагаць, калі пачула крыкі матулі.

**Мікашэвічы.** Адразу 430 работнікаў прадпрыемства "Граніт" падалі заявы аб звальненні з працы з-за малых (200-400 $) заробкаў, іх не звальняюць без месячнай адпрацоўкі.

**Мінск.** Польскі пасол Лешак Шарыпка ўсклаў на беларускі бок віну за затрымку запуска з восені 2010 года пагаднення аб малым прыгранічным руху паміж Польшчай і Беларуссю.

**Маладзечна.** Следчы камітэт распачаў крымінальную справу супраць 11-гадовага вучня Гарадзілаўскай СШ, які залез у дом сваёй землячкі і скраў яе персанальны камп'ютар.

**Гомель.** Супрацоўнікі міліцыі і спецназа МУС выратавалі жыцці двух школьніц, якія хацелі скокнуць вечарам з маста цераз раку Сож і скончыць жыццё самагубствам.

**Брэст.** Да 7 гадоў турмы пагражае траім жыхарам горада за спробу перапрадажу ў Расію больш 2,5 тыс. тон калійных угнаенняў, якія яны набылі ў адным з райаграсэрвісаў.

**Маларыта.** Цудам застаўся жыць 2-гадовы хлопчык, які застаўся адзін. Ён адкрыў акно і выпаў з 5-га паверха на кветнік, калі яго маці выйшла з кватэры вынесці смецце.

**Мінск.** На 79-м годзе жыцця памерла заслужаная артыстка БССР, знакаміты дыктар ЦТ 60-х гадоў Галіна Яроменка, яе мужам быў народны артыст Беларусі Генадзь Гарбук.

**Слаўгарад.** Праз месяц пошуку знайшлі закапаны труп 16-гадовай навучэнкі ліцэя, якую забіла на падпітку нажом падчас спрэчкі ў вёсцы Курганаўка яе старэйшая сяброўка.

**Бабруйск.** Трагедыяй завяршылася спроба мужчыны заправіць аўтамабіль з пластмасавай каністры, у выніку самазагарання бензіну загінуў яго 2-гадовы сын, бацькі абгарэлі.

**Брэст.** На адным з вакзалаў Масквы паліцыя затрымала 57-гадовага брэстчаніна, былога настаўніка і бацьку трох дзяцей, які на дачы забіў з самаробнага пісталета маладога суседа.

# Для ўдзелу ў конкурсе пры паступленні ў ВНУ трэба набраць не меней 7 балаў за тэст



■ БЕЛТА

**У Беларусі для ўдзелу ў конкурсе пры паступленні ў вышэйшыя навучальныя ўстановы трэба набраць на цэнтралізаваным тэставанні не меней 7 балаў за тэст. Пра гэта паведаміла карэспандэнту БЕЛТА кансультант аддзела вышэйшай адукацыі Мінадукацыі Марыя Карпенка, каментуючы пастанову ведамства №29 «Пра ўсталяванне перакладнай шкалы вынікаў цэнтралізаванага тэставання па навучальных прадметах і прызнанні страціўшай сілу пастанову Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь ад 3 красавіка 2009 года №15».**

Пастанова ўсталёўвае дзве перакладныя шкалы - вынікаў ЦТ па навучальных прадметах для асоб, якія паступаюць для атрымання вышэйшай адукацыі I прыступкі, і вынікаў ЦТ па навучальных прадметах для асоб, што паступаюць для атрымання сярэдняй спецыяльнай адукацыі.

Паводле новай шкалы 1-6 балаў па 100-бальнай шкале будуць лічыцца як 2 балы па 10-бальнай. Гэтыя балы будуць лічыцца непраходнымі (нездавальняючымі) для прыёмнай камісіі вышэйшай навучальнай ўстановы. «Але пры гэтым дзеці, якія атрымалі за тэст на цэнтралізаваным тэставанні шэсць і ніжэй балаў, змогуць скарыстацца магчымасцю паступіць у сярэдне-спецыяльныя навучальныя ўстановы», - сказала Марыя Карпенка.

Яна таксама нагадала, што сертыфікаты тым абітурыентам, якія атрымаюць на ЦТ нуль балаў, выдавацца не будуць.

Як паведамлялася, з 2 траўня па 1 чэрвеня ўключна праводзіцца рэгістрацыя на цэнтралізаванае тэставанне. Пункты рэгістрацыі працуюць не толькі па працоўных днях тыдня (з 9.00 да 19.00), але і па суботах - 19 і 26 траўня (з 9.00 да 18.00).

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Орша.** Камітэт дзяржкантролю выявіў на мясцовым мясакамбінаце вялізныя страты на многія мільярды рублёў, супраць яго кіраўніцтва заведзена 5 крымінальных спраў.

**Наваполацк.** Па рашэнні схода акцыянераў па выніках працы летась ААТ "Нафтан" выплаціць да 30 чэрвеня каля 1 мільёна долараў, па 47,7 рубля за кожную набытую акцыю.

**Глыбокае.** Гаспадарчы суд Віцебскай вобласці аштрафаваў на 3 мільёна рублёў прыватную фірму і канфіскаваў у яе больш 2,1 тысячы літраў алею пасля праверкі падатковай інспекцыі.

**Браслаў.** На 58-м годзе жыцця памёр вядомы святар Уладзіслаў Пятрайціс, які працаваў у мястэчку Іказнь. Ён паставіў першы ў Еўропе помнік ненароджанаму дзіцяці ў Мёрах.

**Орша.** Пасля праверкі Дзяржкантролю 16 работнікаў птушкафабрыкі прыцягнулі да адказнасці за безгаспадарчасць, даўгі яе выраслі ў 1,7 разы, тут высокія падзяжы птушак.

**Паставы.** З пачатку года на тэрыторыі раёна падвоілася колькасць крадзяжоў, раскрыты толькі палова з іх, найчасцей крадуць цяпер у сельскай мясцовасці грошы, лом, ровары.

**Лепель.** Пасля вяртання з суботніка і сямейнай спрэчкі з мужам на моцным падпітку жонка падпаліла сваю кватэру, бо міліцыя стала забіраць яе 12-гадовага сына ў прытулак.

**Чашнікі.** З цяжкімі апёкамі рук і галавы даставілі ў рэанімацыю п'яная калгасная пастуха з вёскі Папоўка, які закурыў вечарам у будынку адпачынку і заснуў з цыгарэтай.

**Віцебск.** Аслабленага галадоўкай асуджанага за вывешванне бел-чырвона-белага сцяга Сяргея Каваленку пасля 4 этапа даставілі з Мінска і змясцілі ў адзіночку мясцовага СІЗА.

**Талачын.** Каб не мерзнуць зімой, у самай маладой ў вобласці раённай гімназіі на базе былой СШ №3 устанавілі першыя 32 шклопакеты, гэта праца прадоўжыцца і далей.

**Глыбокае.** На канкурным полі ля возера Кагальнае адбыўся чэмпіянат раёна па коннаму спорту і пераадоленню перашкод, званне чэмпіёна выйграў Уладзімір Буката на Амазонцы

**Полацк.** У рамках міжнароднай акцыі "Ноч музеяў" ва ўсе музеі горада бясплатна пускалі ўсіх, хто нарадзіўся ў 1962 годзе, калі адзначаўся ўпершыню юбілей роднага горада.

**Лепель.** На былым ваенным аэрадроме прайшоў рэспубліканскі турнір па пейнтболу, прысвечаны 200-годдзю Айчыннай вайны 1812 года і падзеям ля Чырвонага маста Полацка.

**Віцебск.** Днём у цэнтры горада ля бізнес-цэнтра "Марка-сіці" правалілася пад зямлю і зламала руку маладая дзяўчына. Гэта здарэнне адбылося падчас акцыі раздачы кошак і сабак з прытулку жывёл.

**Копысь.** Паблізу філіяла літаратурнага музея Янкі Купалы работнікі Аршанскага лясгаса пасадзілі алею памяці паэта, тут літаратар жыў летам 1935 года, пакуль будавалі яму дачу.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

Уладзімір Скрабатун

# Такога Лучай яшчэ не бачыў і не чуў!

**Заканчэнне.**
*Пачатак на стар. 1.*

Лучай і яго ваколіцы мусяць дзякаваць Богу, што яны атрымалі такога руплівага пробашча як Мікалай Ліпскі, мясцовага ўраджэнца (з Шаркоўшчынскага раёна). Ён і пераўтварае Лучай у рамантычны турыстычны брэнд "Паланэз над блакітнымі азёрамі", куды імкнуцца людзі не толькі аддаць даніну Богу, але й датыкнуцца да прыгажосці, пачуць чысцюткую беларускую мову.

Сёлетняя ўрачыстасць была прымеркаваная парафіяльнаму адпусту (фэсту) у гонар святога Андрэя Баболі, апостала Палесся. Былі запрошаныя шматлікія госці і святары. А на культурніцкую частку фэсту быў запрошаны Андрусь Такінданг[1] і гурт "Рэха".

Наогул Андрусь Такінданг, афрабеларус, самы запатрабаваны спявак на Беларусі. Паўсюдна яго любяць, просяць разам сфоткацца, запрашаюць, захапляюцца, а найбольш таму, што спявае ён выключна па-беларуску, дый яшчэ як спявае, што часам некаторых кранае да слёз. І зусім немалаважны фактар – Андрусь даказаў, што пад беларускую музыку можна танчыць! Ён проста завёў лучайскіх дзяўчат дый не толькі дзяўчат! Танчылі "и стар и млад".

Да аўтара гэтых радкоў падышоў адзін спадар і кажа: "Спявае ён лепш і прыгажэй, чым любы беларус! Дзякуй, што далі анонс у вашай газеце аб фэсце ў Лучаі! Так бы і не ведаў. Прыехаў сюды і не шкадую". Я ўжо хацеў паправіць гэтага спадара, што Андрусь таксама беларус, дакладней, афрабеларус. Але тут, на заканчэнне чарговага выступа групы, усе як запляскалі ў далоні…

Напрыканцы выступлення жыхары Лучая і госці фэста шчыра дзякавалі Андрусю за цудоўную музыку. Дзяўчаты падаравалі яму букет кветак і торт, бо Андрусь быў імяніннікам. У сваю чаргу спявак запэўніў, што пра Лучай ён не забудзе і прыедзе зноў сюды з яшчэ большым складам групы на наступную парафіяльную ўрачыстасць.

Каго-каго, а Андруся Такінданга і гурт "Рэха"трэба запрасіць на свята Дня беларускага пісьменства і друку ў Глыбокім. Няхай тыя, хто зняверыўся і лічыць, што Беларусь са сваім сельскім фальклорам так і не вылезла з XVIII стагоддзя, паглядзяць і пачуюць, якая ёсць найноўшая беларуская музыка. Мо й хто задумаецца над тым: што мы губляем цяпер, зневажаючы нашую мову, культуру і гісторыю.

[1] **Наша даведка:** Андрусь Такінданг. Мастак, музыка, паэт. Нарадзіўся ў 1983 годзе ў сям'і беларускі і ўраджэнца Чада. Дзяцінства правёў у вёсцы Чэрцы Віцебскай вобласці. Скончыў мастацкі каледж імя Ахрэмчыка і Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры. Працуе мастаком-рэстаўратарам і грае ў гурце фолькмадэрновай музыкі "Recha". Тэлевядоўца ў перадачы "Наша раніца" на канале АНТ. Чынны ўдзельнік кампаніі "Будзьма беларусамі!" Жыве ў Мінску.



Дзяўчаты завяліся!



Сцэнічная пляцоўка на фоне лучайскага касцёла Святога Юды Тадэвуша. Андрусь Такінданг і група «Рэха.

# Дзень фізкультурніка ў Глыбокім



**19 траўня на гарадскім стадыёне глыбачане і госці горада адзначалі Дзень фізкультурніка.**

Праграма мерапрыемстваў складалася з дзвюх частак – урачыстай і спартыўных спаборніцтваў.

## Урачыстая частка

З прамовай выступіла намеснік старшыні Глыбоцкага райвыканкама па сацыяльных пытаннях Галіна Унуковіч. Ад імя Глыбоцкага райвыканкама былі ўзнагароджаны лепшыя спартоўцы, якія ў 2011 годзе дасягнулі найлепшых вынікаў. Гучала музыка, а мясцовыя артысты ў іх гонар спявалі песні.

За шматгадовую працу і дасягненні ў развіці фікультуры і спорту ў раёне ўзнагароды атымалі Аляксей Сімановіч, Віктар Бартко і Алёна Вішнякова.

Згодна вынікаў штогадовага раённага агляд-конкурсу,былі ўзнагароджаны чатыры лешыя стартоўцы года Глыбоцкага раёна – пераможцы агляду-конкурсу за 2011 год у наступных намінацыях:

**Алег Аўдзеенка** – "Лепшы трэнер 2011 года"- за дасягненні ў трэнерскай працы.

**Яўген Самсонаў** – " Лепшы фізкультурны грамадскі дзеяч 2011 года" - за лепшую пастаноўку спартыўна – масавай і фізкультурна-аздараўленчай працы на прадпрыемстве УП ЖКГ Глыбоцкага раёна і спартыўныя дасягненні.

**Андрэй Дзікавіцкі** – " Лепшы інструктар-метадыст 2011 года – за падрыхтоўку спартсменаў і дасягнутыя спартыўныя поспехі грамадскага акцыянернага прадпрыемства " Глыбоцкі камбікормавы завод".

**Вячаслаў Плюта** – "Лепшы спартсмен 2011 года" – за дасягнутыя спартыўныя поспехі.





Адзін з нашых аўтараў сп. Яўген Самсонаў (злева) атрымлівае ўзнагароду.

Ад імя аддзела фізкультуры, спорту і турызму Глыбоцкага райвыканкама за дасягнутыя спартыўныя поспехі ўзнагароды атрымалі: Мікіта Ішуцін, Аляксандр Шабан, Ірына Зубрыцкая, Юлія Клёва, Артур Сабыніч і Максім Шымко.

## Спартыўныя спаборніцтвы

У гонар спартыўнага свята сярод школьнікаў праходзіла першынство раёна па лёгкай атлетыцы, а асабіста паміж спартыўнымі камандамі прадпрыемстваў і арганізацый праводзіліся спаборніцтвы па летняму шматбор'ю "Здароўе".

Ва ўпартай барацьбе сярод дарослых з 9 каманд пераможцам у камандным заліку стала каманда "Ахова"(1004,4 ачкі). "Ліцэй" з 976,5 ачкамі – на другім месцы (усё гэта дзякуючы выступленню за гэтую каманду спадара К. Чыжэўскага, які набраў асабіста 299 ачкоў). "ЖКГ" – 859 ачкоў на трэцім месцы. "ПМК", "РайПО", " А/П №16", "Птушкафабрыка", "МКК", "ВК-13" падзялілі адпаведна з 4 па 9 месцы.

*Ул. інф.*



■ **Аляксандр Івашчонак,**
*бакалаўр гісторыі, г.Нэапаль, Італія.*

**Працяг.**
*Пачатак у №4(616) , №5 (617), №6 (618), №7(619), №8(620), №9 (621), №10(622); №11 (623), №12 (624), №13(625), №14 (626), №15 (627), №16 (628), №17 (629), №19 (631), 20 (632) за 2012 год.*

**Публікацыя захоўвае стыль і правапіс аўтара.**

# Мястэчка Глыбокае

## Кляштар



**Разбурэньне глыбоцкага кляштара Кармэлітаў босых, здымак канца XIX ст.**
Ужо разабраны бакавы корпус, які стаяў паралельна храму. Унізе – кляштарная сажалка, на мейсцы якой цяпер кансэрвавы завод.

Апавядаючы пра адукацыю, пра аптэку, бібліятэку пры кляштары і гд., варта таксама прысьвяціць некалькі слоў апісанню самага кляштара Кармэлітаў босых. Бо менавіта кляштар быў цэнтрам альбо нават сэрцам жыцьця і дзейнасьці манахаў, якія стварылі пры кляштары высокаразьвітое гаспадарчае заплечча, навуковае заплечча ў выглядзе бібліятэкі, навуковага габінэту, навіцыяту, парафіяльнай школкі, аптэкі, акрамя таго Кармэліты стварылі пры кляштары грамадзка-рэлігійныя арганізацыі, якімі былі шкаплерныя брацтвы і гд. Аднак варта заўважыць, што ўсе гэтыя ініцыятывы былі створаныя “пры кляштары” – гэта значыць, што менавіта кляштар быў тым найважнейшым “асяродкам”, ад якога залежыла разьвіцьцё і будучыня мястэчка Глыбокае.

Менавіта таму, каб лепш зразумець вялізарную ролю кляштара ў жыцьці мястэчка, варта апісаць гэты кляштар. Прыгадаю, што кляштар быў мейсцам, дзе жылі манахі, ішакш кажучы, кляштар гэта манастыр. Сам будынак меў два паверхі, уяўляў сабой квадрат, які быў спалучаны з касьцёлам Унебаўзяцьця Найсьвяцейшай Панны Марыі такім чынам, што яго франтавая частка была дабудаваная да вуглавой сьцяны касьцёла з дапамогай фурты – мейсцам, якое служыла ўваходам у кляштар. Тыльная сьцяна кляштара была спалучана з тыльнай сьцяной касьцёла. Франтавая частка кляштару была даўжынёй 62 аршыны, даўжыня бакавой сьцяны лічыла 72 аршыны, і тыльная сьцяна лічыла 72 аршыны. Гэтая тыльная сьцяна мела мураваны ганак і алькеж, які ўяўляў сабой вуглавую адасобленую частку кляштара, яна ў сваю чаргу звонку выступала за плашчыню сьценаў. Алькеж быў пабудаваны ў выглядзе вежападобнага аб’ёму. Зазвычай, алькеж быў перабудовай вонкавых сярэднявечных вежаў абаронных замкаў[1].

Кляштар быў атынкаваны і пабелены, быў пакрыты чарапіцай. Уваход у кляштар быў ад могілак пры касьцёле, якія знаходзіліся на касьцёльнай плошчы, паміж касьцёлам і капліцай Сьв. Крыжа. На гэтых могілках былі пахаваныя розныя асобы, такія як, напрыклад Разалія Корсак і іншыя прадстаўнікі шляхты. Таму каб патрапіць ў кляштар, трэба было прайсьці праз гэтыя могілкі. У кляштар уваходзілі праз фурту. Адразу пры ўваходзе была кляштарная аптэка, якая складалася з 5 пакояў і складу. Па ўваходзе праз фурту траплялі на кляштарны калідор, якіх на першым паверсе было 4. Напрыканцы гэтага калідору знаходзіўся алькеж, акрамя таго першы паверх налічваў 17 пакояў, а таксама два двайныя пакоі. Акрамя таго на першым паверсе былі: гаспіторыюм – *hospitorium* – адмысловае памяшкане для гасьцей; рэфэктаж – *refektarz* – мейсца, дзе елі манахі, свайго роду сталоўка (трапезная); кухня са складам і бакоўкай для чэлядзі, кляштарная пякарня са складам і бакоўкай; парлаторыі – *parlatoria* – адмысловыя памяшканьні для размоў, напрыклад, калі прыяжджалі розныя госьці ці родзічы, то манахі маглі размаўляць зь імі толькі ў гэтых памяшканьнях, так як у ва ўсім будынку кляштара было забаронена размаўляць, бо манахі павінныя былі жыць і працаваць у цішыні.

**Ва ўяўленьні манахаў з Кракава, Вісьніча ці Познаня – Глыбокае знаходзілася недзе далёка далёка на Поўначы, паміж багнамі і балотамі, там дзе граніца са Скандынавіяй і Масковіяй, дзе заканчвалася Эўропа і пачыналася Азія.**

На другі паверх каля келлі прыёра была зробленая лесьвіца, а іншыя лесьвіцы з боку гаспіторыюма. На другім паверсе быў толькі адзін звычайны пакой і 22 двайныя пакоі. Акрамя таго адна вялікая заля, адна малая і два вялікія склады. Былі таксама наверсе два карцэры, адзін двайны і адзін звычайны. Гэтыя карцэры выкарыстоўваліся як мейсца пакараньня манахаў, якія паводзілі сябе дрэнна, якія, напрыклад, не прачыналіся на ранішнія малітвы, альбо размаўлялі з жанчынамі без дазволу прыёра, альбо трымалі кляштарныя рэчы ў сваіх кельлях і гд. Таму за пакараньне такія манахі былі трыманыя ў карцэры. Гэта магло доўжыцца ад аднаго дня да некалькіх гадоў.

Гэты карцэр быў так пабудаваны, што манах мог знаходзіцца ў ім толькі на каленях, ня мог ані легчы, ані выпраставаца, а яго твар знаходзіўся ў накірунку алтара. У карцэры не было вакон, манах знаходзіўся там у паўнюткай цемры. У карцэры было таксама вядро для нячыстотаў, якое мянялася раз на тыдзень. Манах, які быў у карцэры, атрымліваў ежу толькі раз у дзень, а гэтай ежай быў кавалак хлеба і кубак піва. Прыгадаю, што ў тыя часы вада не заўсёды была чыстая, а са страўнікавымі хваробамі не заўсёды ўмелі змагацца, шмат людзей у тыя часы памірала ад звычайнай дызэнтэрыі, таму з ежай ужывалася альбо піва альбо віно.

**Ужо ў XVIII ст. у мястэчку Глыбокім гулялі ў боўлінг, а сёньня бадай ніхто й ня чуў пра такую гульню, многія езьдзяць адпачываць за мяжу, аднак каб Глыбачане зьбераглі толькі тое, што было, то сьмела б у Глыбокага не было б адбою ад турыстаў з усяго сьвету.**

Здаралася, што некаторыя манахі ў Глыбокім былі трыманыя ў гэтых карцэрах аж па 3 гады. Ідэяй карцэра ў манастыры не было пакараньне манаха, але дапамога яму, каб ён, будучы на каленях і ў малітве тварам да алтара, зразумеў свае памылкі і выправіўся. Можа паўстаць пытаньне, чаму злосных парушальнікаў манаскіх статутаў не выганялі з кляштара? Справа ў тым, што ў каталіцтве сьвятарскія пасьвячэньні лічуцца “незмазальнымі”. Гэта значыць, што ніхто ня можа пазбавіць сьвятара яго сьвятарства, нават Папа Рымскі. Як вядома, пры сьвятарскіх пасьвячэньнях біскуп намашчае кандыдату сьвятым алеем галаву і рукі, сьвяты алей у сваю чаргу ўпітваецца ў скуру, калі алей упітаўся, яго ўжо нельга вымазаць. Таму калі з кляштара выгналі б манаха, то яго збаўленьне было б на сумленьні кляштара, каб пазьбегнуць такой вялікай адказнасьці ,у кляштарах былі створаныя карцэры, якія б дапамагалі зразумець заблуканым манахам свае правіны і навярнуцца на шлях збаўленьня.



Варта зрабіць заўвагу, што яшчэ ў другой палове XVII ст. вельмі часта Глыбоцкі кляштар быў разгляданы ня толькі як вельмі багаты і разьвіты, але таксама як і свайго роду папраўчак для дрэнных манахаў з Захаду.Ва ўяўленьні манахаў з Кракава, Вісьніча ці Познаня – Глыбокае знаходзілася недзе далёка -далёка на Поўначы, паміж багнамі і балотамі, там дзе граніца са Скандынавіяй і Масковіяй, дзе заканчвалася Эўропа і пачыналася Азія. Таму вельмі часта, дрэннаму манаху хапала самой думкі аб падарожжы ў Глыбокае, каб выправіцца. Варта таксама памятаць, што ў тыя часы (другая палова XVII ст.) глыбоцкі кляштар быў у стане будаўніцтва, было шмат цяжкой працы, акрамя таго нестабільная сытуацыя, вяліся войны з Масковіяй дый Швэцыяй і гд. Усё гэта стварала пэўную атмасфэру глыбоцкасьці, якая не для ўсіх была прывабнай.

Вяртаючыся да апісаньня кляштара, трэба зазначыць, што на другі паверх была зробленая таксама і трэцьцяя лесвіца каля самай фурты. Каля гэтай лесвіцы былі яшчэ 4 пакоі і заля. Акрамя таго кляштар меў два блехі – мейсца, дзе бялілі палатно, свайго роду маленькія дзядзінцы. На адным блеху была вялікая студня з калаўротам, пакрытая чарапіцай на 4 мураваных слупах, з жалезным ланцугом і двумя вядрамі. Да студні была прымацаваная рына, якая дапраўджала ваду аж у самую кляштарную кухню ў вялікую кадзь. На другім блеху была пабудаваная аптэчная лабараторыя, пакрытая гонтам.

Кляштар меў таксама два ганкі для ўваходу на кляштарны дзядзінец. Акрамя таго і на першым, і на другім паверсе кляштара былі зробленыя прыбіральні. Кляштар меў 26 швэдзкіх печаў, таксама 3 з шэрай кафлі, адну цагляную і 4 кухонныя з 22 комінамі на даху, акрамя таго меў 159 ашклёных вакон, усе дзьверы былі драўляныя, пафарбаваныя, з замкамі. Пад усім кляштарам былі падзямельлі.

Акрамя таго пры кляштары для маладых манахаў, для іх фізычнага разьвіцьця была зробленая “крэнгельня” альбо інакш кегельбан, альбо па-сучаснаму – боўлінг. Так, менавіта боўлінг. Пры кляштары была зробленая драўляная паласа (дарожка) з 9 кеглямі і шаром, якім трэба было зьбіць як мага больш кегляў, выстаўленых у выглядзе ромба.

Як бачна, у мястэчку Глыбокім ужо ў XVIII ст. гулялі ў боўлінг, аднак сёньня ў Глыбокім бадай ніхто і ня чуў пра такую гульню, многія езьдзяць адпачываць за мяжу, аднак каб Глыбачане зьбераглі толькі тое, што было, то сьмела б у Глыбокага не было б адбою ад турыстаў з усяго сьвету. На жаль, мы ня ўмеем шанаваць ані нашай гісторыі, ані нашай спадчыны.



**Касьцёл Унебаўзяцьця Найсьвяцейшай Панны Марыі. Усходні фасад.** *Рэканструкцыя на палову XIX ст. Ул. Скрабатуна*



**Гульня ў боўлінг каля карчмы.**

**Заўвагі:**

[1] Факт існаваньня алькежа пры глыбоцкім кляштары, можа служыць доказам на тое, што глыбоцкі кляштар Кармэлітаў босых быў так папраўдзе перабудовай сярэднявечнага замку, які на гэтым месцы пабудаваў Баркалаб Корсак ў XVI ст., а быць можа нават і Багдан Астафеевіч Корсак яшчэ ў XV ст. Аднак пакуль што, гэта толькі здагадкі.

# Мотатранспарт – сродак перасоўвання павышанай небяспекі!»

**Федаровіч І.В.,**
*начальнік отдела ДАІ Глыбоцкага РАУС, падпалкоўнік міліцыі.*

Паважаныя жыхары нашага раёна, не паспелі мы азірнуцца, як прайшла вясна і мы апынуліся на парозе самай гарачай пары года. Паводле праведзенага аналізу, летні перыяд з'яўляецца складаным у частцы бяспекі дарожнага руху, бо маецца шэраг фактараў, якія ўплываюць на дарожнае становішча ў гэту пару года. Па-першае – гэта павышэнне тэмпературы паветра за 25 градусаў, што ў сваю чаргу прытупляе ўвагу і пільнасць вадзіцеля на дарозе, па-другое – да гэтага перыяду практычна на ўсіх участках дарог праведзены рамонт і зухі не прочкі прадэманстраваць тэхнічныя дадзеныя сваіх аўта на добрай дарозе, па-трэцяе – на летнія вакацыі з'язджаюцца дахаты студэнты, якія, пражываючы ў гарадскіх умовах, за час вучобы адвыкаюць ад умоў бяспекі дарожнага руху характэрных для сельскай мясцовасці, і ў чацвёртых – гэта штогадовая праблема звязаная з забеспячэннем бяспекі дарожнага руху сярод такіх удзельнікаў як вадзіцелі мотатранспарту.

У сувязі з тым, што ў летні перыяд ускладняецца становішча на дарогах, з 21 траўня па 30 кастрычніка Дзяржаўтаінспекцыяй будзе праводзіцца другі этап комплексу прафілактычных мерапрыемстваў па папярэджанні дарожна-транспартных здарэнняў з удзелам двухколавых транспартных сродкаў.

Праведзенне першага этапу вышэйпаказаных мерапрыемстваў, які праводзіўся з 16 па 29 красавіка, паказала, што нашым грамадзянам, якія кіруюць двухколавымі транспартнымі сродкамі, яшчэ вельмі далёка да дысцыплінаваных кіроўцаў.

Нягледзячы на працу, якая праводзіцца Дзяржаўтаінспекцыяй па выяўленні і спыненні парушэнняў правіл дарожнага руху, асабліва ў сельскай мясцовасці, нам не атрымалася пакуль выкараніць такія парушэнні ў вобласці дарожнага руху, як кіраванне транспартнымі сродкамі ў стане алкагольнага ап'янення, кіраванне, не маючы пасведчання вадзіцеля, кіраванне без моташлемаў, кіраванне няспраўным, або сабраным па запчастках мотатранспартам, не маючы дамовы пра абавязковае страхаванне грамадзянскай адказнасці ўладальнікаў транспартных сродкаў.

Увесь час, публікуючы артыкулы, выступаючы на радыё, мы даводзім усю патрэбную інфармацыю для нашых удзельнікаў дарожнага руху, выступаем у школах, працоўных калектывах, а ў канчатковым становішчы атрымліваем адмоўны вынік. Гледзячы на гэта, ствараецца ўражанне, што: або грамадзяне не чытаюць прэсу, не слухаюць нашы выступы, або яны проста ігнаруюць патрабаванні Правіл дарожнага руху. Сёння сума найменшага штрафу складае 50000 рублёў, дык пра што сёння думаюць нашы грамадзяне, парушаючы ПДР і прымушаючы пакутаваць сям'ю ад недахопу грашовых сродкаў пасля выплаты штрафу за неабдуманы ўчынак.

Асаблівую трывогу ў нас выклікае ігнараванне кіроўцамі матацыклаў законных патрабаванняў працаўнікоў міліцыі пра спыненне транспартных сродкаў. Нярэдка матацыклісты з грубейшымі парушэннямі хуткасных рэжымаў спрабуюць схавацца, падвяргаючы небяспецы сябе і прысутнага ззаду пасажыра, за жыццё і здароўе якога яны ў адказе.

За час правядзення першага этапу прафілактычных мерапрыемстваў выяўлена 100 парушэнняў ПДР, дапушчаных кіроўцамі матацыклаў і мапедаў, 21 з іх затрыманыя ў п'яным выглядзе, 12 кіроўцаў, якія не мелі правоў на кіраванне транспартным сродкам.

Дзяржаўтаінспекцыя Глыбоцкага РАУС заклікае кіроўцаў да выканання Правіл дарожнага руху, і перш, чым парушыць іх, добранька падумайце.

Грамадзян, якія не абыякавыя да становішча на дарогах нашага раёна, добрасумленных удзельнікаў дарожнага руху, тых, хто шануе жыццё і здароўе нашых родных і блізкіх, мы заклікаем да сумеснай працы па навядзенні парадку ў сферы бяспекі дарожнага руху і хуткім паведамленні пра грубыя парушэнні ПДР з мэтай своечасовага спынення такіх па тэлефонах: 2-27-78, 2-33-02 і ў начны час па тэлефоне 5972174 сеткі МТС.




# Бяспека дзяцей!

**Федаровіч І.В.,**
*начальнік отдела ДАІ Глыбоцкага РАУС, падпалкоўнік міліцыі.*

**«Служыце прыкладам свайму дзіцяці!»– пад такім дэвізам пройдзе Адзіны Дзень бяспекі дарожнага руху 25 траўня 2012 года на тэрыторыі ўсёй рэспублікі ў тым ліку і нашага раёна, а з 24 траўня па 8 чэрвеня будзе праводзіцца адмысловае комплекснае мерапрыемства «Увага-дзеці!»**

У гэты дзень праца Дзяржаўтаінспекцыі будзе накіраваная на прафілактыку дзіцячага дарожна-транспартнага траўматызму.

**Паважаныя бацькі!** У пазбяганне няшчасных выпадкаў, якія адбываюцца на нашых дарогах, будзьце самі дысцыплінаванымі і прывучайце да гэтага дзяцей. Кожны раз, калі Ваша дзіця выходзіць з дому, не заленуйцеся нагадаць яму няхітрыя правілы паводзін на вуліцы! Памятайце, што нават адзін няслушны крок дзіцяці на праезнай частцы дарогі, можа прывесці да няшчасця.

Паважаныя вадзіцелі! Ад Вас патрабуецца асаблівая асцярожнасць пры праездзе побач з дзіцячымі пляцоўкамі, каля школ (у летні час у шматлікіх школах працуюць дзіцячыя аздараўленчыя лагеры), ля прыпынкаў грамадскага транспарту і ўчасткаў дарог, дзе абмежаваная бачнасць. Клопат пра дзяцей – наша агульная справа.

Мы звяртаемся да Вас з просьбай: убачыўшы дзяцей, якія гуляюць на праезнай частцы дарогі ці каля яе, не заставайцеся абыякавымі, зрабіце дзецям заўвагу і пракантралюйце, каб яны пакінулі праезную частку.



# Раённы суд па годнай якасці ацэньвае дзеянні браканьераў

**А.В. Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

Азёры і рэкі рэспублікі – наша багацце, але як мы ставімся да яго, як захоўваем. Пытанне, якое можна задаць кожнаму з грамадзян, бо практычна кожны жыхар, хоць раз на год, але бывае на вадаёмах. Берагі шматлікіх азёр і рэк пасля наведвання людзьмі закіданы смеццем, дрэвы павалены, кастрышчы ад вогнішчаў праз кожныя 2-3 метры. Вельмі шмат смецця пакідаюць пасля сябе рыбакі, асабліва тыя, якія прыязджаюць на вадаём кампаніямі, на беразе і вадзе застаюцца пластыкавыя бутэлькі, пенапласт, хоць гэта ёсць самае сапраўднае забруджванне вадаёма і грамадзяніна можна прыцягнуць да адміністрацыйнай адказнасці, штраф да 20 базавых велічынь. Бо захаванасць нашых вадаёмаў залежыць не толькі ад колькасці злоўленых браканьерамі і наяўнасці ў азёрах рыбы, але і ад чысціні берагоў.

Браканьерства – тэма асобная, якой супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі надаюць адмысловую ўвагу. Сёлета да крымінальнай адказнасці ўжо прыцягнута 4 грамадзян, да адміністрацыйнай адказнасці за браканьерства прыцягнута больш за 100 чалавек, канфіскавана больш 1 км. браканьерскіх сетак, дзясяткі восцяў, пад'ёмных сетак, больш 100 кілаграм незаконна здабытай рыбы. Але ўсё яшчэ штотыдзень супрацоўнікі інспекцыі затрымоўваюць аматараў лоўлі рыбы забароненымі спосабамі, раённы суд па годнай якасці ацэньвае дзеянні браканьераў.

Так, 7 красавіка 2012 года на возеры Малое Уклейна Ушацкага раёна супрацоўнікамі Глыбоцкай міжрайінспекцыі быў затрыманы жыхар г. Наваполацка грамадзянін Харак Н.М., які ажыццяўляў здабычу рыбы восцямі, але быў затрыманы. Суд г. Наваполацка ацаніў дзеянні парушальніка ў 1 млн. рублёў.

22 красавіка 2012 года жыхар в. Мамаі Глыбоцкага раёна грамадзянін Крывёнак А.Е. быў затрыманы працаўнікамі міжрайінспекцыі на канале паміж возерам Камінскае і вадасховішчам Азерцы падчас здабычы рыбы забароненым спосабам. Глыбоцкі раённы суд ацаніў дзеянні» Крывёнка А.Е. у 1 млн. 100 тысяч рублёў, а незаконна здабытыя 2 асобіны карася ацаніў у 120 тысяч рублёў, дарагая рыбка атрымалася.

Вось такіх прыкладаў можна прыводзіць шмат, усе затрыманыя парушальнікі панеслі вельмі сур'ёзнае пакаранне. Спадзяемся, што прыведзеныя прыклады астудзяць запал асобных, яшчэ не злоўленых браканьераў.

Хацелася б звярнуць увагу грамадзян на навядзенне парадку каля сваіх хат і на прысядзібных участках. Вельмі шмат прыватных участкаў зараслі пустазеллямі, крапівой, конскім шчаўем, рамонкам, асотам, дзьмухаўцамі і іншымі пустазельнымі раслінамі. Выконваючы Распараджэнне Глыбоцкага раённага выканаўчага камітэта ад 18.04.2012 года № 83р «Пра стварэнне працоўных груп па абследаванні тэрыторый населеных пунктаў», працаўнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету будуць надаваць першараднае значэнне навядзенню парадку на асабістых прысядзібных участках грамадзян. Артыкул 15.7 Кодэкса Рэспублікі Беларусь «Пра адміністрацыйныя правапарушэнні» «Парушэнне правіл, усталяваных для барацьбы з пустазельнай расліннасцю, хваробамі і шкоднікамі раслін» прадугледжвае для грамадзян, якія дапусцілі парушэнне, штраф у памеры да 20 базавых велічынь ці 2 млн. рублёў. Давайце наводзіць парадак не толькі ў хаце, але і на прысядзібных участках, за сваім плотам. Сорамна, калі каля плота растуць розныя пустазеллі, трава не абкошана, а нанова ўсталяваныя платы фарбуюць працаўнікі розных прадпрыемстваў. Няўжо сам гаспадар не можа пафарбаваць усталяваны за кошт дзяржавы плот.

Глыбоцкая міжрайінспекцыя выказвае падзяку ўсім добраахвотным памочнікам і проста неабыякавым грамадзянам у дапамозе па барацьбе з браканьерствам.

Добраахвотных памочнікаў становіцца ўсё больш, значыць і праца інспекцыі ўсё эфектыўней.

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць па тэлефонах: 8 -02156-8-2-86-70, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.

## Віншаванкі

*Аліну Сцяпанаўну Лук'янёнак*

**Віншуем з Днём нараджэння!**

Пусть годы идут, а душа не стареет.
Пусть внуки растут, голова не седеет,
Пусть добрые люди приходят в твой дом,
Пусть радость и счастье всегда будут в нём.

*Л. К. Субач.*

## МНС інфармуе
**на 22.05.2012 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 530;
Гібель людзей – 73, з іх 3 дзіцяці;
Урон – 3408,6 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 24;
Гібель людзей – 5, з іх дзяцей няма;
Урон – 182 550 000 руб.

